Год II. Лістапад. № 12 (22)

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1930 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 12.




# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода . . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год II. | Вільня, Лістапад 1930 г. | № 12 (22). |
|---|---|---|

## Канфіската „Шляху Моладзі“ № 11 (22).

25-га кастрычніка с. г. па загаду Гарадзкога Старасты на м. Вільню сканфіскаваны «Шлях Моладзі» № 11 (21) за м-ц кастрычнік за зьмяшчэньне вестак з украінскага жыцьця п. наз. «Разьвязаньне «Пласта», і «Апошнія падзеі ў Заходняй Украіне».

З прычыны цяжкога нашага матэр'яльнага палажэньня не маглі мы выдаць наступнага нумару зараз пасьля канфіскаты. Каб-жа ня быць у доўгу нашым падпішчыкам, гэты нумар выдаём у пабольшаным размеры.

## У дзень 500-лецьця сьмерці Вялікага Князя Вітаўта.

(*27.X.1430 — 27.X.1930*)

500 гадоў таму назад, 27-га кастрычніка 1430 году, памёр Вялікі Князь Вітаўт.

Быў ён сынам Кейстута і Біруты, стрыечным братам Ягайлы, пазьнейшага караля Польшчы. Жыў Вітаўт у другой палове 14-га і ў першай 15-га сталецьця. Вітаўт быў князем, вялікім валадаром, вельмі добрым ваякам і гаспадаром Вялікага Княства Літоўскага, у склад якога ў тую пару ўваходзілі: Літва, Беларусь і Украіна. Вялікае Княства Літоўскае разцягалася ад Балтыцкага да Чорнага мора і ад ракі Буга да Акі.

У 1386 і 1413 г. уся Літва і Беларусь былі далучаны да Польшчы. Вялікі Князь Вітаўт не гадзіўся аднак з гэтым далучэньнем і стараўся праз цэлае сваё жыцьцё здабыць незалежнасьць для Вялікага Княства Літоўскага. Гэта-ж вельмі непадабалася палякам і яны ўсялякімі спосабамі стараліся перашкодзіць імкненьням Вітаўта.

Калі В. К. Вітаўт здолеў дайсьці да вялікае сілы і да-

вясьці Вялікае Княства Літоўскае да дабрабыту, хацеў аканчальна закончыць сваю працу для незалежнасьці свае дзяржавы, ня толькі фактычна, але і праўна, і дзеля гэтага жадаў ён сябе каранавацца каралеўскай каронай. Гэтаму аднак перашкодзілі палякі.

Вітаўт ня толькі змагаўся за самастойнасьць Вялікага Княства Літоўскага з аднымі Палякамі, — ён мусіў бараніць паўдзённую часьць ад вельмі частых і вялікіх нападаў татарскіх ордаў і заходнюю — ад паходу тэўтонскіх рыцараў, якія былі вялікай небясьпекай для літоўцаў, палякоў і беларусаў. І дзякуючы толькі Вітаўту, які стаў на чале літоўскіх і беларускіх войскаў, быў даны рашучы адпор грознай тэўтонскай навале ў слаўнай бітве пад Грунвальдам.

За часоў Вітаўта літэратурнай мовай Вялікага Княства Літоўскага перастае быць мова царкоўна-славянская, а стаецца мова жывая, беларуская, якая стаецца мовай адміністрацыі, суду, грамадзкага жыцьця і культуры ўсяе дзяржавы.

Агулам-жа кажучы, за часоў Вітаўта ў нашай старонцы панаваў лад, дабрабыт, а так-жа цьвіла культура і цывілізацыя.

Дык сягоньня, сьвяткуючы 500-лецьце сьмерці Вялікага Князя Вітаўта, аддаймо яму чэсьць належную.

* * *

500 гадоў таму назад былі мы сільныя, шчасьлівыя, былі мы так-жа, як кажа паэт, „слаўныя ў краі і за краем“. Сягоньня ня маем мы гэтага.

Але быць так далей не павінна!

Мы мусім усю нашу злыбяду перамагчы. І ў гэтым бязумоўна пакладаюцца ўсе надзеі на моладзь.

Дык мы, моладзь беларуская, разам з моладзяй братніх народаў украінскай і літоўскай дружна павінны змагацца за нашыя супольныя ідэалы, за шчасьце нашых народаў.

Я. Н.



# Аб палітычных і грамадзкіх кірунках у мінуўшчыне і сучаснасьці.

(Працяг, гл. № 10 „Шляху Моладзі").

## 4. Комунізм (соцыялізм).

Дагэтуль мы гаварылі аб палітычных кірунках у гісторыі чалавецтва, але апроч палітычных кірункаў ёсьць яшчэ **грамадзкія.**

Чым-жа рожніцца палітычны кірунак ад грамадзкага?

Рожніцца тым, што палітычны кірунак бярэ пад увагу толькі спосаб кіраваньня дзяржавай, не зварочваючы, або мала зварочваючы ўвагі на тое, як будзе ўстроена грамадзянства ў дзяржаве; а грамадзкі кірунак бярэ пад увагу так-жа грамадзкі лад у дзяржаве. Палітычныя кірункі, аб каторых мы дагэтуль гаварылі (монархізм, арыстократызм, дэмократызм) апіраюцца на тым грамадзкім ладзе, які людзі атрымалі ад вякоў, г. зн. на прыватнай уласнасьці, на сямейным жыцьці, на рэлігіі і г. д., з той толькі рожніцай, што дэмократызм ідзе да таго, каб дзеякія няроўнась ці паміж людзьмі згладзіць і завесьці новы лад, абапёрты на сапраўднай вольнасьці і роўнасьці, а монархізм і арыстократызм хочуць, каб усё асталося пастараму з усімі каралеўскімі і панскімі прывілеямі (консэрватызм).

Комунізм-жа заводзіць сусім новы грамадзкі лад: ён касуе прыватную ўласнасьць, зносіць сямейнае жыцьцё і ня прызнае ніякай рэлігіі, затым ён ёсьць ня толькі палітычным, але і грамадзкім кірункам.

Што-ж такое комунізм і адкуль ён пайшоў?

Каб лепш зразумець комунізм, нам трэба выясьніць яшчэ адзін, блізкі да яго, грамадзкі кірунак, які завецца **соцыялізмам.** Гэтыя два кірункі разам паўсталі, разам разьвіваліся і вельмі падобны адзін да другога, як два браты, хоць адзін да другога вельмі варожыя.

Слова „соцыялізм" выводзіцца ад лацінскага слова „соціаліс", што зн. грамадзкі, так як лацінскае слова „соцієтас" азначае панашаму „грамаду". Соцыялізм, таксама як і комунізм, імкнуцца да таго, каб зьнесьці прыватную ўласнасьць, а завесьці грамадзкую, гэта значыць, каб ніхто ня мог сказаць, што вось гэта „мая" зямля і „мой" дом, „мой" млын, „мая" фабрыка, „мая" жывёла, „мой" плуг, але ўсё гэта грамадзкае: і зямля, і дом, і жывёла, і ўсё прылады вытворчасьці. Паводле соцыялістычнай навукі ўсё гэта мае быць „соціале" (грамадзкае) і згэтуль назоў „соцыялізм".

Комунізм выводзіцца таксама ад лацінскага слова „коммуніс“, што значыць **супольны**. Комуністы ідуць ня толькі да таго, каб зямля, дамы, фабрыкі, жывёла і ўсе прылады вытворчасьці былі грамадзкімі або супольнымі, але каб нават было супольным усё дабро, атрыманае пры супольнай працы. Такім парадкам комуністы ідуць яшчэ далей за соцыялістых: калі соцыялісты стаяць за тое, каб супольнымі былі толькі варштаты працы і прылады вытворчасьці, то комуністы дамагаюцца супольнасьці нават у карыстаньні з тых прадуктаў, якія былі атрыманы пры супольнай працы. Паводле соцыялізму—разам будзем уладаць, разам працаваць, але потым падзелімся тым, што мы зарабілі і кожны па сабе будзем спажываць запрацаванае дабро, а паводле комунізму — ня толькі разам уладаць і разам працаваць, але яшчэ і разам спажываць. Ніякай уласнасьці, ніякага падзелу прадуктаў комунізм не прызнае: комуна ў вытворчасьці, комуна і ў спажыцьці—тагды, калі соцыялізм стаіць толькі за комуну ў вытворчасьці, а дапускае сякую-такую ўласнасьць у спажыцьці (свая ежа, сваё адзеньне і г. д.).

І гэта будзе галоўная тэорэтычная рожніца паміж соцыялізмам і комунізмам. Але ёсьць яшчэ і іншыя рожніцы, якія дзеляць гэтыя два грамадзкія кірункі, а гэтыя рожніцы будуць перадусім у справе **тактыкі**.

Соцыялізм апіраецца на **эволюцыі** або паступовым разьвіцьці грамадзкага ладу ад прыватнай уласнасьці да супольнай, а комунізм стаіць за **рэволюцыю**, г. зн. за гвалтоўную перамену сяньняшняга ладу на комуністычны, не астанаўліваючыся нават перад крывавым змаганьнем з праціўнікамі гэтай перамены. Соцыялісты кажуць, што грамадзянства само сабою, паступова і памаленьку прыдзе да таго пракананьня, што соцыялістычны (грамадзкі) лад лепшы за цяперашні і такім парадкам бяз ніякага прымусу згіне прыватная уласнасьць, а наступіць супольная. Соцыялісты цьвердзяць, што ня можна накідаць соцыялістычнага парадку сілаю, што трэба тлумачыць народу ўсе карысьці супольнага валаданьня і супольнай працы—і тагды толькі, калі большасьць народу зразумее і захоча скасаваньня прыватнай уласнасьці, тагды пры помачы галасаваньня можна правесьці такую важную рэформу, як соцыялізм і зьнясьці прыватную ўласнасьць. Гэтак цьвердзяць соцыялісты...

Затым, што соцыялісты прызнаюць народнае галасаваньне і апіраюцца ў сваіх рэформах на большасьці народных галасоў — іх называюць **соцыял-дэмократамі**, гэта значыць, што яны пры сваім соцыялізьме не адкідаюць і дэмократызму.

Зусім ня тое ў комуністаў. Яны не прызнаюць ніякага дэмократызму (народаўладзьдзя), не зварочваюць увагі

на ніякую бол[ь]шасьць, не прызнаюць і дэмократычнага галасаваньня, — яны апіраюцца толькі на ўладзе аднэй партыі: што скажа партыя — тое сьвята, хацяб гэта партыя мела ў народзе і значную меншасьць*).

На чым-жа соцыялісты і комуністы думаюць абапёрціся ў праводжаньні сваіх рэформ?

Як соцыялісты так і комуністы заўсёды цьвердзяць, што яны апіраюцца на пролетарыяце. Што-ж такое пролетарыят? — Пролетарыят — гэта слова лацінскае, яно выводзіцца ад слова „пролес“, што зн. дзеці, патомства. Пролетарыятам у старадаўным Рыме называлі тых людзей, якія не давалі дзяржаве нічога (ніякіх падаткаў) апроч дзяцей. Пролетарыят тагды ня меў бадай ніякай уласнасьці, гэта былі работнікі, якія жылі з працы рук, наймалі для сябе кватэру і так пражывалі свой век. Цяпер пролетарыятам называюць такіх людзей, якія ня маюць на ўласнасьць варштатаў вытворчасьці (зямлі, фабрык), а жывуць працуючы на чужых варштатах працы.

Пролетар — паводле соцыялістычнага і комуністычнага разуменьня — гэта такі чалавек, які ня мае **свайго** варштату працы. Такі-ж чалавек, каторы мае на ўласнасьць **сваю** зямлю, або каторы мае **свой** варштат працы—гэта ўжо ня будзе пролетар, а буржуа.**) Селянін, які працуе на **сваім** кавалку поля, або рамесьнік (каваль, сталяр), які працуе ў **сваей** майстэрні — гэта ўжо ня будуць пролетары, а дробныя буржуа. Работнік-жа, каторы працуе ў майстра, або парабак у гаспадара — гэта будуць пролетары, бо яны ня маюць свайго варштату працы, а працуюць на чужым.***)

Вось-жа на пролетарыяце хочуць абапёрціся і соцыялісты і комуністы ў праводжаньні сваіх ідэяў і за ўплыў на пролетарыят вядуць паміж сабою заўзятае змаганьне. Пролетарыят, паводле іхнага разуменьня, — гэта найлепшы

---

*) У Расеі на 150 міл. жыхарства ёсьць толькі каля паўтара мільёна комуністаў, значыць, адзін комуніст выпадае на 100 жыхараў.

**) Слова „буржуа“, „буржуй“ паходзіць ад францускага слова „bourgeois“ (чытай: буржуа), што значыць мешчанін, жыхар гораду, які мае ўласнасьць. Бург — панямецку горад! Дык даўней „буржуямі“ звалі кожнага жыхара гораду, мешчаніна, купца, а цяпер называюць кожнага чалавека, які мае большую ўласнасьць. У грамадзкіх навуках буржуямі завуць усіх, хто мае якую-колечы ўласнасьць, нават сялян і рамесьнікаў, якія маюць свой варштат працы. Грамадзкі лад, які апіраецца хоцьбы на дробнай уласнасьці называюць у навуцы буржуазным ладам.

***) Затым комуністы сялян не называюць пролетарамі, а падзялілі іх на тры ступені: багацейшых называюць кулакамі, не багатых і ня бедных — серадпякамі, а бедных — беднякамі, але ніколі пролетарамі, бо хоць яны і бедныя, то ўсёжтакі не пролетары, бо маюць на ўласнасьць кавалак зямлі, хату і якую жывёліну. Пролетар той, каторы ня мае ніякай уласнасьці. Затым кожную партыю, якая стаіць на грунце ўласнасьці, комуністы называюць буржуазнай, хаця-б гэта партыя складалася выключна з бедных сялян або дробных рамесьнікаў, маючых свае варштаты.

матэрыял, на якім можна будаваць новы, сацыялістычны ці комуністычны лад. Пролетарыят нічога ня мае — кажуць яны, — яму ня трэба выракацца ўласнасьці і затым яго найлягчэй давесьці да соцыялізму і комуны. Пролетарыят павінен прымусіць і іншыя клясы (сялян, мяшчан, рамесьнікаў) адказацца ад уласнасьці і завесьці новы грамадзкі лад. Згэтуль зрадзілася і дыктатура пролетарыяту.

Дзе-ж пачатак комунізму (соцыялізму) і якія яго галоўныя асновы?

Пачаткі комунізму мы бачым ужо ў далёкай прошласьці. Яшчэ перад Нараджэньнем Хрыста некаторыя людзі задумоўваліся над тым, ці ня лепш было-б жыць **разам** і працаваць **супольна** і такі напр. грэцкі філёзаф Плято (4 век перад Хрыстом) цьвярдзіў, што паміж прыяцелямі павінна быць комуна. Далей мы бачым комуністычныя асновы ў старадаўным хрысьціянстве, аб каторым пішацца, што „грамада веручых мела адно сэрца і адну душу, ніхто з іх нічога ня меў на ўласнасьць і неназываў сваім, але усё было ў іх супольнае (Апост. Дзеі 4—32). Але гэта супольнасьць у старадаўным хрысьціянстве была ня з прымусу, а з добрай волі і з свае ахвоты — і гэта была болей супольнасьць спажыцьця (консумпцыі), чым супольнасьць вытворчасьці і працы. Даўнейшыя хрысьціяне працавалі паасобна, толькі потым запрацаванае дабро прыносілі ў супольную касу, з каторай абдзялялі ўсіх, асабліва ўдоў і сірот.

І ў цяперашнім хрысьціянстве комунізм ня вывеўся,— яго мы спатыкаем у манастырох, дзе ёсьць ня толькі супольнасьць спажыцьця, але і супольнасьць маемасьці і працы. Манах у манастыры ня мае права мець нічога на ўласнасьць, усё належыць да манастыра або да цэлага іхнага ордэну.

Але трэба сказаць праўду, што гэты хрысьціянскі комунізм, таксама як і даўнейшы грэцкі, ня мае нічога супольнага з сяньняшнім, які паўстаў у 19 стагодзьдзі. Бацькам сяньняшняга комунізму ёсьць Кароль Маркс (нямецкі жыд, памёр у 1883 г.), які разам з Энгельсам у 1848 годзе выдаў г. зв. „Комуністычны маніфэст" — і ад гэтага году трэба лічыць нарадзіны сяньняшняга комунізму.

Якія-ж былі асновы комунізму Маркса і Энгельса?

**Першай** асновай была супольнасьць маемасьці і працы (вытворчасьці); супольнасьць спажыцьця (консумпцыі) вытвараных супольнай працай прадуктаў. Прыватная ўласнасьць касуецца, а ўсе працуюць разам і разам карыстаюцца з прадуктаў працы. Паводле комуністычнай тэорыі гэта супольнасьць (комуна) заводзіцца прымусова пры помачы дыктатуры пролетарыяту.

**Другою** асновай комунізму было скасаваньне сям'і, а гэта затым, што сям'я ёсьць галоўным фундамэнтам пры-

ватнай уласнасьці. Бацькі, маючы дзяцей, стараюцца забясьпечыць іх быт і зьбіраюць для іх прыватную ўласнасьць. Паводле комуністычнай тэорыі мужчына з жанчынай можа зыходзіцца і разыходзіцца, калі толькі хоча, няма паміж імі ніякай вечнай сувязі, а ёсьць толькі „супольнае“ жыцьцё. Дзеці выхоўваюцца не пры бацьках, але ў комуністычных прытулках. Такім парадкам паводле комуністаў зносіцца сям‘я, а разам з сям‘ёю і прыватная ўласнасьць.

**Трэцім** галоўным пунктам марксаўскага комунізму ёсьць адкіданьне ўсялякай рэлігіі. Марксізм стаіць на тым пункце, што няма Бога і душы, а ёсьць толькі матэрыя, затым ніякая рэлігія ня можа мець месца ў комуне. Хрысьціянства і наагул кожную рэлігію комунізм стараецца выкараніць усімі спосабамі, ня толькі агітацыяй, але нават зьдзекамі і прасьледам. Да агітацыі пакліканы спэцыяльны „Саюз бязбожнікаў“, які пры помачы газэт, брашур і прадстаўленьняў стараецца выкараніць усялякую рэлігію, а ўрад забараняе комуністам спаўняць рэлігійныя практыкі (хадзіць у царкву, хрысьціць дзяцей і г. д.) За ахрышчэньне дзіцяці, напрыклад, або які іншы рэлігійны абрад, выключаюць з комуністычнай партыі. Апошнім часам ня прымаюць на работу і не выдаюць картачак на кватэру, прадукты і адзеньне тым, хто не адрачэцца веры ў Бога і не адчураецца сваей рэлігіі.

Такім парадкам, уваходзячы ў справы рэлігійныя, комунізм Маркса і Энгельса ёсьць ня толькі грамадзка-палітычным кірункам, але і мэтафізычна-рэлігійным, творачым нейкую новую веру, новую рэлігію, якая ня можа перанесьці старой. Комуністы ня толькі змагаюцца за сваю тэорыю, але яны **верацьу** яе, так як верылі першыя хрысьціяне або магомэтане. **Комуністы пэўны**, што іхная тэорыя ёсьць найлепшая і за сваю тэорыю гатовы цярпець... Яны стварылі нават свой філёзофічны сьветагляд (гістарычны матэр‘ялізм), які апіраецца на мэтафізычных (надразумовых) асновах, так як і кожная рэлігія. Затым, што яны людзі **веручыя ў сваю тэорыю**, яны такія фанатыкі ў праводжаньні гэтай тэорыі.

Якая-ж гісторыя сяньняшняга расейскага комунізму?

Спачатку расейскія комуністы не называліся комуністамі, а так, як і іхныя заграніччныя таварышы, — соцыялдэмократамі. Яны стаялі на грунце **эволюцыі** і, апіраючыся на гістарычным матэр‘ялізме, цьвердзілі, што грамадзкі лад сам па сабе **мусіць** прыйсьці да соцыялізму. Яны казалі, што спачатку будзе капіталізацыя ўсіх прыладаў вытворчасьці (зямлі, фабрык, машынаў) у руках адзінак (капіталістаў), а потым дарогай гістарычнай канечнасьці прыдзе соцыялізацыя: уласнасьць, зграмаджаная ў руках нямногіх капіталістаў, пярэйдзе ў рукі многага пролетарыяту.

Тымчасам гэтая рахуба не апраўдывалася, капіталізацыя наступала толькі ў галіне фабрычнага промыслу, а ў зямельнай уласнасьці ня толькі ня было капіталізацыі, але штораз большае раздрабленьне... Гэты факт мусіў выклікаць рэвізію дасюлешняга соцыялістычнага пагляду на справу эволюцыі — і гэту рэвізію зрабіў Уладзімер Ульянаў, знаны пад прозьвішчам Ленін.

Ленін (радзіўся ў 1870 г., памёр у 1924 г.) адкінуў соцыялістычную эволюцыю, а ўвёў рэволюцыю і гэтым пхнуў соцыялізм на новы шлях, шлях сілы і дыктатуры. На зьезьдзе „Расейскай соцыял-дэм. рабочай партыі" ў Лёндыне (1903 г.) Ленін праводзіць свае ідэі і большасьць зьезду станавіцца на яго бок і па тым-жа зьезьдзе наступіў падзел на бальшавікоў і меншавікоў: прыхільнікі Леніна, якія былі ў большасьці, назвалі сябе бальшавікамі, а сваіх праціўнікаў назвалі меншавікамі. *).

Калі-ж бальшавікі ў 1917 годзе ў кастрычніку здабылі ўладу ў Расеі і пачалі праводзіць дыктатуру, трэба было зьмяніць назоў „соцыял-дэмократычная" партыя на які іншы, бо дэмократызм вымагае большасьці народу, а дыктатура адкідае гэту большасьць і заводзіць права меншасьці. Дык бальшавікі адкінулі назоў „соцыял-дэмократаў", а сталі называцца комуністамі, а сваю партыю назвалі „комуністычнай партыяй бальшавікоў".**)

Соцыялісты-бальшавікі і соцыялісты-меншавікі даўней працавалі разам і тварылі адзін соцыялістычны інтэрнацыянал (саюз соцыялістычных партыяў розных народаў). Першы інтэрнацыянал быў заложаны самым Марксам у 1864 годзе ў Лёндыне, але ён скора разваліўся. Тагды ў Парыжы ў 1889 г. быў заложаны другі інтэрнацыянал, рэарганізаваны ў Гамбурзе у 1923 г., куды ўваходзяць усе соцыялдэмократычныя партыі. Трэці або комуністычны інтэрнацыянал (коратка: Комінтэрн) заложаны ў 1919 г. абымае ўсе комуністычныя партыі, якія годзяцца з праграмай расейскіх комуністаў.

---

*) Адкуль пайшлі словы „бальшавік" і „меншавік" людзі доўга спорылі. Адны казалі, што ад расейскіх слоў „больше" і „менше" г. зн., што адны хочуць болей у жыцьці соцыялістычных асноў на самым пачатку і адразу, а другія на пачатак менш, а потым ужо калі большасьць народу згодзіцца на соцыялізм увесьці яго поўнасьцю. Спрэчкі выясьніў сам Ленін, каторы ў сваім творы „Дзяржава і рэвалюцыя" сьцьвердзіў, што гэтыя словы паходзяць ад слоў „большинство" і „меньшинство", на якія разьбіўся Лёндынскі зьезд.

Соцыялісты-дэмократы бальшавікі ў 1917 годзе прынялі назоў комуністых, а соцыялісты-меншавікі і дагэтуль называюцца соцыял-дэмократамі.

**) З гэтага бачым, што „комуніст" і „бальшавік" —гэта адно і тое самае. Па нашых вёсках часам можна пачуць гутаркі, што комуніст — гэта адно, а бальшавік — гэта другое. Гэтыя гутаркі апіраюцца на нязнаньні пачатку і разьвіцьця гэтых слоў.

Паміж другім і трэцім інтэрнацыяналам ідзе заўзятая барацьба. Сябры з 2-га інтэрнацыяналу, стоячы на грунце дэмократызму (соцыялісты), спагадлівей адносяцца да сяброў 3-га інтэрнацыяналу (комуністаў), затое комуністы, якія стаяць на грунце дыктатуры і сілы, растрэліваюць бяз ніякай літасьці сваіх таварышоў з 2-га інтэрнацыяналу, хоць тыя такія самыя работнікі і пролетары, як і комуністы.

Гэтак адбыўся вялікі падзел і ідзе гарачая спрэчка ў аднэй соцыялістычнай сям'і. Кажам — у аднэй сям'і, бо сапраўды, паміж соцыялістамі і комуністамі **ў тэорыі** бадай няма ніякай рожніцы: як адны так і другія ідуць да скасаваньня прыватнай уласнасьці, да зьнясеньня сям'і і ўсякай рэлігіі, а розьняцца паміж сабою, як мы ўжо казалі, толькі **ў практыцы**. Адны хочуць завесьці соцыялізм пры помачы эволюцыі і дэмократызму, а другія — пры помачы рэволюцыі і дыктатуры.

Вось і будзе ў галоўных рысах навука соцыялізму і комунізму. Прадставілі мы тут іхнюю навуку зусім об'ектыўна, нічога не дадаючы і нічога ня скрываючы. Крытыку гэтых кірункаў мы пакідаем да апошняга артыкулу, дзе будзем крытыкаваць усе палітычныя і грамадзкія кірункі, аб якіх ідзе гутарка ў гэтых артыкулах. **Ваг.**

# Чаму зімой не выміраюць рыбы і расьлінасьць у водах?

Фізычныя правы матэрыі гласяць, што кожнае цела аграваючыся расшыраецца, а астываючы корчыцца і зьмяншаецца. Прыкладам можа тут быць нацягваньне гарачага абруча на кола, які астыўшы не звальваецца з яго. Адначасна целы, зьмяншаючы пад уплывам тэмпэратуры сваё абыймо, цяжэюць. Вось-жа вада падлягае гэтаму праву толькі да пэўнай граніцы. Калі мы яе гарачую будзем астуджаць, то яе цяжар будзе большаць, кожная напрыклад яе аднальковая мерка, маючая ніжэйшую тэмпэратуру, будзе цяжэйшай. Але гэтак з вадой дзееца толькі да 4° С. Пры гэтай тэмпэратуры вада будзе найгусьцейшая, яе цяжар будзе найбольшы, бо калі будзем далей, ніжэй 4° С, астуджаць ваду, дык гушчыня яе і цяжар будзе малець. З гэтага ясна, што слаі вады цяплейшыя і зімнейшыя ад 4° С, як лягчэйшыя, будуць заўсёды ў вярху, а ў нізшых слаях вады, на дне, будзе панаваць амаль 4° С. Пры гэтым зімой, пры холадзе 0°, вада замярзае, замяняецца ў цела сталае — лёд. Лёд лягчэйшы ад вады, ніколі ня тоне і не дапушчае лішне холаду, каб далей астуджалася вада.

Калі-б лёд быў цяжэйшы за ваду і тонуў-бы, — тады замест вады мелі-б мы ў вазёрах і рэках адзін лёд, а на дне ляжалі-б прыдушаныя жывёлы і вадзяныя і расьлінасьць. Аднак, дзякуючы мудрасьці Тварца, так ня ёсьць!

**Я. М.**

# Аб народнай творчасьці.

## Песьні.

У папярэднім нумары „Ш. М.“, хоць у кароткіх словах, сказаў я, што такое народная творчасьць і аб яе значэньні. Чяпер-жа народную творчасьць падзялю на аддзелы. І так да народнай творчасьці належаць: 1) дэмонічныя вераваньні, 2) богабражэньне аб прыродзе, народная мэдыцына (лячэньне), 3) чары, 4) народныя аповесьці (казкі), 5) народныя песьні, 6) загадкі і прыказкі, 7) відовішча драматычнае, ігры і гульні, 8) скокі (танцы) і 9) народная музыка. Усе гэтыя вышэй успомненыя аддзелы народнай творчасьці становяць скарбніцу беларускай культуры духовай.

Прыступаю перш да разгляду 5-га аддзелу народнай творчасьці, г. зн. да народных песьняў, бо гэтую галіну нашай духовай культуры лічу за найбольш цэнную і найбольш вартую таго, каб яе перш прастудыяваць.

Сярод беларускіх народных песьняў бадай галоўнае месца займаюць песьні **абрадавыя**. Абрадавыя песьні заўсёды зьвязаныя з спэцыяльным месцам, часам і асобамі. Абрадавыя песьні можам падзяліць на групы, а іменна: а) песьні сямейныя, б) песьні абрадава-гадавыя.

Песьні-ж сямейныя дзеляцца на: а) хрэсьбінныя, б) вясельныя, в) хаўтурныя.

Песьні хрэсьбінныя, якія сьпяваюць на Беларусі і да сяньняшняга дня, ужо ня маюць у сабе нічога асаблівага. Зьмест іх ня цікавы, часта зусім бязсэнсоўны; а словы часта цалком ня прыстойныя, ня гледзячы на тое, што пераважна хрэсьбінныя песьні пяюць жанчыны. Красы ў мэлёдыях таксама не знаходзім. Можа калісь і былі прыгожыя мэлёдыі, але ў сягоньняшнія часы мы іх ня можам даслухацца, бо гэтыя песьні пяюць бадай заўсёды ў падхмеленым стане. Хрэсьбінныя песьні складаюцца з кароценькіх урыўкаў, куплетаў; доўга пяяць іх госьці не маглі, бо, падвыпіўшы, часта перарывалі адну і пачыналі іншую песьню.

Апрача ўрыўкаў і прыпеўкаў, якія пяюцца для маткі і дзіцяці, пяецца цэлы цыкль песьняў бабцы, асабліва, калі ядуць ейную кашу і бліны, а таксама, калі возяць яе на баране.

Гледзячы з пункту мастацкага на хрэсьбінныя песьні, мы там не знаходзім нічога цэннага. Затое знаходзім там праўдзівую фатаграфію хрэсьбінных абрадаў, якія, праўда, шмат дзе зьмянілі сваю першапачатную форму. Аднак з гэтых, хоць часта, безсэнсоўных урыўкаў можам прачытаць гісторыю хрэсьбінных абрадаў. Дык вось і хрэсьбінныя песьні маюць пэўную сваю вартасьць.

Далей пераходзім да наступнай групы песьняў, якія злучаныя з абрадам вясельным. Гэтая група зьяўляецца найбагацейшай з усіх абрадавых песьняў.

Увесь вясельны абрад адбываецца з песьнямі: на кожны мамэнт і на кожныя абставіны пры гэтым абрадзе ёсьць адпаведныя песьні. Асабліва шмат ёсьць прыгожых песьняў прызначаных на дзявочы вечар; гэта знача, калі дзяўчаты чэшуць маладую пасадзіўшы на кубел, або як віюць вянкі з руты для маладой. У гэтых выпадках ёсьць два роды песьняў: сірочыя і нясірочыя. Калі маладая зьяўляецца сіратой, то пяюць ей сірочыя песьні, а калі не, то іншыя. На наступны дзень, як выпраўлаюць маладую да шлюбу і як спатыкаюць ад шлюбу — пяюць жанчыны і дзяўчаты вельмі і вельмі прыгожыя і жалосныя песьні; тады ня толькі маладуха заліваецца сьлязьмі, але і іншыя чулыя душы. Гэтыя песьні прадстаўляюць праўдзівы вобраз дзявочага жыцьця маладой, яе маладых і сьветлых гадоў, а побач з гэтым малююць сумны, шэры вобраз будучага, турботнага, а можа і гаротнага жыцьця замужам. Ня менш ускалыхаючыя душой песьні пяюць пры апошнім абедзе, калі дораць маладую, і песьнямі ў гэты час выклікаюць матку, бацьку і інш., каб тыя прышлі дарыць дачушку. І горка заплача тады дачушка, калі яе бацькі ня жывуць ужо.

У вясельных песьнях мы знаходзім ня мала так-жа гумару тады, калі пяюць на ад'езд сватоў (гасьцёў). У гэты мамэнт нездаваляюцца госьці самымі песьнямі, але ў помач бяруць заслонкі, рэшаты, катлы, кісялёўкі, памёлы і інш. рэчы, з чаго твораць так званы ад'ездны марш сватом.

**М. Пяцюкевіч.**

# Куток для спорту.

## Ножны мячык — футбал.

Ножны мячык можна лічыць як адну з вельмі старых спортавых іграў. Як кажуць вучоныя, ужо некалькі тысячаў гадоў перад Нар. Хрыста кітайскія паэты ўспамінаюць у сваіх творах аб ігры з мячыкам. Старадаўныя Грэкі мелі ігру з мячыкам, якую называлі „episkylos".

У Рымлянаў мячык называўся „harapaston" і быў выплецены валосьсем. Тут навет былі ўжо адумысловыя плошчы для гэтае ігры. У Англійцаў гэтая ігра так распаўсюдзілася, што цяпер сталася іх народнай ігрой. У іх футбал паявіўся таксяма вельмі даўно. Ужо ў XIV стагодзьдзі ў дакумантах Лёндыну знаходзяцца забароны гуляньня ў мячык на вуліцах, каб запабегчы разьбіцьцю вокнаў. Гэта сьведчыць, што ўжо тады ігра ў ножны мячык была ў Лёндыне вельмі распаўсюджана. У XVI стагодзьдзі гэтая ігра паяўляецца ў Францыі і Італіі. Тут ужо яна была абмежавана пэўнымі правіламі.

Цікаўна, што ножны мячык у Італіі і ў Францыі быў

распаўсюджаны тады толькі ў вышшых слаях грамадзянства, а ў Англіі, наадварот, — толькі паміж пралетарыятам. Што футбал у XIX стагодзьдзі вельмі распаўсюдзіўся ў Англіі, гэта ёсьць заслугай школы ў Ругбі, якая гэтую ігру ўпісала ў праграму сваіх вучняў.

З Англіі футбал пераходзіць у XIX стагодзьдзі ўжо як яе народная ігра да іншых народаў. У другой палавіне XIX стагодзьдзя футбал ангельцы падзялілі на 2 розныя ігры: „rugby-footbal“ і „footbal association“. Першая ігра дапускае паслугоўвацца нагамі, галавой і рукамі; другая забараняе датыкацца рукамі да мячыка.

Футбал наагул ёсьць карыснай ігрой, даючай шмат розных гімнастычных рухаў. Апрача гэтага тут іграк вучыцца грамадзкасьці, напрыклад: сябра дружыны мусіць паддавацца пэўным правілам ігры, мусіць свае ўласныя хаценьні падпарадкаваць агульнаму дабру дружыны, мусіць сумленна і старанна іграць дзеля выйгрышу ўсяе дружыны, адным словам тут іграк вучыцца грамадзкасьці.

Ігра ў ножны мячык адбываецца гэтак: дзьве дружыны, па 11 іракоў кожная, іграюць на прыгатаванай да гэтага плошчы, якая мае 100—110 мэтраў даўжыні і 65—75 мэтраў шырыні. Плошча падзелена на дзьве роўныя часьці. Кожная часьць мае сваю брамку. Адна часьць плошчы з брамкай прыдзяляецца аднэй дружыне, другая — праціўнай дружыне. Кожная дружына стараецца выкінуць мячык праз брамку дружыны праціўнай, штурхаючы мячык нагамі, не датыкаючыся да яго рукамі.

Беларусы ў сваіх народных гульнях таксама ўжываюць мячыка. Мячык у сялян рэдка калі будзе куплены, а пераважна робіцца ён самымі-жа гуляючымі з ануч, або з абрэзкаў скуры. Добрым мячыкам лічыцца такі, які мае ў сярэдзіне клубок з гумовых істужак, ад старых калёшаў. Гэткі клубок абматываецца ганучамі, або рамянём.

Да гульняў і іграў з мячыкам у беларусаў залічаецца: „кон“, „яркі“, „сьвечка“, „салавей“, „грахі“ „адрабляцца“ і іншыя.

Ул. Казлоўшчык.

---

# Барацьба з п'янствам.

Найстрашнейшым ворагам Беларускага народу, асабліва яго будучыні — моладзі, зьяўляецца п'янства. Як гэта ня сумна, але прыходзіцца сьцьвердзіць, што з п'янствам, з гэтым найстрашнейшым ворагам чалавецтва, у нас на Беларусі не вядзецца ніякаў барацьбы.

Вось чаму п'янства пашыраецца й прымае вялізарныя разьмеры. Нашае і без таго няпрыгляднае жыцьцё, пад дзействам алькагольных напояў, прымае нейкія дзікія, ненармальныя формы. Адурманеныя гарэлкай людзі стано-

вяцца вар'ятамі, кідаюцца адзін на аднаго з чым папала, б'юцца, душацца і ў рэзультаце адны йдуць на той сьвет, а другія ў турму. П'янства прычыняецца ня толькі да матэр'яльнай галіты, але страшэнна руйнуе яшчэ і самога чалавека. Пры колькі год п'янста самы здаровы чалавек астаецца хворым, бязвольным, данічога ня здольным.

Бяручы пад увагу, што п'янства ў нас прыймае грозныя разьмеры, даволі небясьпечныя і для нашага Адраджэньня, усе жывыя сілы беларускага народу, усе палітычныя, культурна-асьветныя, грамадзкія і іншыя арганізацыі, павінны энэргічна выступіць з прапагандаю ідэі цьвярозасьці . Надта прыемна было-б, каб нашае духавенства, як праваслаўнае так і каталіцкае, таксама распачала барацьбу з п'янствам, арганізуючы пры царквох і касьцёлах брацтва цьвярозасьці.—

Маем мы такія-сякія самаўрады. Дык вось беларускія іх сябры так жа павінны не аглядаючыся на нікога, зараз-жа выступаць супроць гэтага зла.

Польскае права дае магчымасьць валасным і местачковым самаўрадам, праз адпаведнае галасаваньне насельніцтва спыніць на заўсёды, ці на пэўны час прадажу алькагольных напояў у сваей мяйсцовасьці. Беларускі радны павінен ухапіцца за гэта права і выкарыстаць яго ў поўным значэньні гэтага слова, калі сапраўды ёсьць імкненьне зрабіць штоколечы добрае для сваіх выбаршчыкаў.

Ва ўсіх гэтых пачынаньнях беларуская зарганізаваная моладзь павінна быць першай. Ніхто так ня цэрпіць ад п'янства, як наша моладзь: нішча свае маладыя, поўныя здароў'я і надзеі сілы. Наша моладзь мусіць выступаць на арэну барацьбы з п'янствам у імя абстынэнцыі, гэта знача з прынцыпам цьвярозасьці, поўнага зрачэньня піцьця алькагольных напояў. Праўда, гэта трудная рэч, сустрэнецца мноства розных перашкод, але працаваць у гэтым кірунку трэба канечна.

Барацьба з п'янствам ёсьць вялікай працай дзеля адраджэньня нашай Бацькаўшчыны.

Калі мы, Беларусы, імкнемся да Адраджэньня, хочам быць у сям'і вольных народаў, то павінны растацца з п'янствам, бо толькі той народ жыве, які здароў целам і душой, алькаголь-жа нішчыць цела і душу.

Толькі цьвярозы сын, ці дачка Беларусі, можа запраўды пакахаць працу, здаровую забаву, запраўды пакахаць і пазнаць духовае хараство нашай беларускай прыроды.

Дык хай-жа нашае шэрае беларускае жыцьцё, а ў першаю чаргу наш е маладое юнацкае жыцьцё абальецца касулькамі ідэі цьвярозасьці і сьветлай маральнасьці і лепшага жыцьця!

Далоў п'янства-атруту, хай жыве абстынэнцыя-цьвярозасьць!

**К. Матусэвіч.**

# Літэратурны аддзел.

## МЫ ДОЎГА Ў ПАЦЁМКАХ БЛУДЗІЛІ.

Мы доўга ў пацёмках блудзілі,
Доўга сьвету знайсьці не маглі;
Усе, хто хацеў, нас вадзілі,
За ўсякім, хто вёў нас — ішлі.
Дарогі сваей мы ня знали,
Ня знали, за кім нам ісьці,
Зблудзіўшы мы часта пыталі:
Гдзе нам дарогу знайсьці?
Крыжуюцца, ўюцца сотні дарог,
На кожную хтосьці нас кліча,
Той кажа: „па старых сьлядох"!
Той новымі весьці нас хоча.
Дзякуем шчыра усім,
Доўга і так нас вадзілі,
Ад веку мы зьдзекі цярпім,
Ад веку сьлязьмі нас паілі.
Мы верылі доўга „паном", „гаспадам",
Больш верыць цяпер мы ня будзем —
Яны ўласнасьці нашай ня хочуць даць нам:
Мы самі — што наша — здабудзем.
Народ ужо здраднікаў лічыць,
І хутка пакліча на суд,
За здраду ім карай заплаціць
Імі разгневаны люд.

**Леанід з пад Вішнева.**

* * *

Беласнежным, сьвежым цьветам
Вішні ў садзе расьцьвілі...
Ах, цудоўна перад летам
На прабуджанай зямлі...
У вачох тваіх каханае,
Заіскрылася цяпло...
З новай верай, быццам п'янае
Сэрца біцца пачало...

**Каласок.**

## ВОСЕНЬ.

Час цёплага лета,
Прыгожай вясны;
Астаткі ўспамінаў,
Салодкія сны.
Панурая восень,
Сарвала лісты;
Гусінныя крыкі,
Астаткі красы.
Завялі ўжо краскі,
Ні духу вясны.
Сабраны ўжо нівы,
Цьвітуць верасы;
А там незабавай,
Глядзі маразы
Услалі пасьцель,
На нівы ляглі.
Ў хмары з засады,
Сьняжынкі пашлі,
У брамах і полі
Навеі ляглі.
Час цёплага лета,
Прыгожай вясны;
Астаткі ўспамінаў,
Салодкія сны
Да яснай і цёплай
Наступнай вясны.

**Пал. Алекса.**

Манішчыца, 10.IX.1930 г.

* * *

Я верыў павевам
Раньняй вясны
І жаўранкі сьпевам
У ясныя дні.
Я верыў у сны-мары,
Духа парыў,
І чыстай ахвяры
Пайлоньнікам быў.
Я верыў гарачым
Дзяўчыны славом,
Калі яна з плачам
Клялась аўтаром,
Што верная будзе
У слове сваім,
А здрадзіць, — хай людзі
Узгардзяць саўсім.
Аднак незадоўга
Вернасьць яе
Для славы бяз шкоды
Зьнікла у імгле.

Цяпер і павевам
Ня веру вясны,
Ні жаўранкі сьпевам
У ясныя дні.
Бо віхар з паўночы
Буру прынёс
І кветкі у ночы
Сьнегам прытрос.
А жаўранак ціха
Пад сьнежнай мяжой
Сядзеў сам бяз дыху
На воку з сьлязой
Цяпер больш ня веру
І ў духа запал,
Бо сяньня кар'ера
Гняце ідэал.
Стуль сэрца астыла
І вера у ём,
Жыцьцё нейк няміла,
Мозг паліць агнём.

І вось прашу Бога
У малітве сваей,
Каб даў мне нямнога —
Каб умерці хутчэй.

**В. Клепацкі.**

## УВОСЕНІ.

Вятры шумяць, вятры гудуць
Паўночныя, халодныя,
І хмары ўсьця-ж плывуць, плывуць
Па небу сіва-цёмныя.

Яны плывуць, у даль бягуць,
А потым зноў зьбіраюцца,
Жануць дажджы, якія йдуць —
Аж тыднямі здараецца.

Усё ў прыродзе ў гэты час
Брызгае мокрай слотаю,
Адныя купалы усьця-ж
Зіяюць пазалотаю.

І думкі трацяць свой палёт,
Становяцца дамашнімі...
Жыве прыгнечаны народ —
Прыгодамі ўчарашнімі.

**В. Шкодзіч.**

## УСПАМІНЫ.

(Абразок з праўдзівасьці).
(Гл. № 10 „Ш. М.")

Я азірнуўся навакола:
Ах, як пацешна і вясёла.
Каб не зрабіць які тут промах
Я прывігаў усіх знаёмых,
Якія мяне акружылі,
Сьмяялісь, нешта гаманілі;
Аднак я з імі асьцярожна
Абходзіўся, бо пазнаць можна
Было; што ўсе былі п'яныя;
Хоць такжа хлопцы й не благія,
Але-ж я ведаў, што п'янога
Чапаць ня можна, як сьвятога;
Аднак ня ўсе так паступалі
І іх зусім не паважалі.
Вось зараз званкі зазьвінелі,
Бо на вазы сваты паселі
І ўжо да шлюбу ад'яжджаюць.
Музыкі чутна марш іграюць.
Жаніх з маршалкам ужо едзе
Аж дзе чорт браў... Шульжыцкі [Федзя,
Адзін з п'яных на воз ўскуліўся;
Ён нешта там разгаманіўся
І жаніху не спадабаўся,
Які яго ўпрасіць стараўся,
Каб як ён зьлез. Ня даўшы-ж [рады
Ўпрасіць, піхнуў яго ён з заду.
Шульжыцкі-ж не чакаўшы [многа
Так спраўна трэснуў маладога,
Што гэны ня стрымаў зьнявагі,
Схапіў яго і без увагі
Таўкнуў нагою пад калені
І паваліў так на каменьне.
Тут зараз усе закрычэлі
І суматоха узьнялася
Здаецца аж зямля траслася.
Бо усе чыста карачаўцы
І Шульжыцкі (з аднэй вёскі [хлопцы)
Ужо ўзяліся не памалу.
Вось нейкаму чуваць папала,
Бо бабы там загаласілі
„Аей, забілі, ўжо забілі!"
Бо хто у бойцы паваліўся
Па іхняму — ужо забіўся.
І гэтае ўсё зьяўленьне—
Было жывое прадстаўленьне,
Якое выклікала ўцеху
Ўглядзельнікаў і многа сьмеху
Вось зара ўсе пабунтавалісь,
Крычэлі, тузалісь і рвалісь.
Шульжыцкага хлапцы [дзяржалі
І нешта яму талкавалі,
А ён зусім не услухаўся,
З іхніх рук вырвацца стараўся,
Штось недарэчнае камякаў,
Нарэшце бедны аж заплакаў,
Якраз як матку пахаваўшы,
Ен чмыхаў жалю ня [стрымаўшы.
Вось Русакевіч Стась надходзе,
Кругом вачыма грозна водзе.
Аднак круціўся ён ня многа,
Бо мусіць не знашоў такога
Які-б із ім мог пабівацца;
Абы-ж з кім не хацеў займацца,
Бо быў адборны ён мужчына.
Страшны пагляд яго і міна
Усіх быўшых там хлапцоў [пужала
І грамада яму ўступала.
Каб ня круціцца на дарозе.
Вось зараз Струк Максім [надходзе
Які на гэтакія справы
Так сама вельмі быў цікавы,
А дзе валтузяцца і б'юцца
Любіў канешна й ён уткнуцца.
Але тады я не заўважыў,
Што ў гэтым ён зрабіць [наважыў,
І толькі бачыў на астатку,
Як ён пïргаў ўсіх па парадку
Хлапцоў ад п'янства адурэлых,
У той час адважных, гордых, [сьмелых,

Якія хоць і упіраліс
Аднак-жа яму пакараліс,
І ён пагнаў іх як скаціну.
Ах, як пацешная часіна!
Хто толькі на іх углядаўся
Ніхто ад сьмеху ня стрымаўся
Й было чаго, як угледзіў:
Знаёмы ўжо Шульжыцкі Федзя
Яшчэ ўсё чмыхаў у насатку.
Хлапцы-ж ня маючы занятку
Штурхаліс між сабой, крычэлі,
Хрыпатым голасам штось пелі..
Уся гранда іхняя гамоне,
А з заду Струк Максім іх гоне
Й пігае кожнага у плечы...
Вось гэтак пастушкі авечак
Дамоў як гоняць з добрай
[пашы
І сьцёбаючы пугай страшаць,
Яны выбрыківаюць, скачуць,
Нічога-ж за сабой ня бачуць
І толькі тагды заўважаюць,
Як пугаю іх акладаюць.
І вось у гэтакім парадку
Быў лёс хлапцоў тых на астатку
І скора з тым Максімам з заду
Яны схаваліся з пагляду
І мусіць не зманю нікому
Што ўсе яны пашлі да дому.
А як прамчалась гэта ліха,
Кругом спакойна было й ціха,
Бо ўсё вясельле і музыкі,
Як толькі пачаліся крыкі,
Ужо да шлюбу ад'яжджалі
І толькі яшчэ пачакалі,
Пакуль жаніх на мейсца сядзе
Й патыліцу загладзе.

Ох, цяжка мучыць нас ад веку
Гарэлка — вораг чалавека.
Яна разьліўшыся, як мора
Нанесла многа слёз і гора,
Праз яе бедны і багаты
Вялікія выносяць страты,
Губляюць розум, траціць
[памяць
І брудам сваю душу плямяць.
Мужык із жонкай разлучыўся,
А нехта рэзаўся, ці біўся,
Хтось дапусьціўся ашуканства,
Якім парадкам? — Усё-ж праз
[п'янства.
Чаму-ж Шульжыцкі Федзя
[стройны,
Дзяцюк прыемны і спакойны
У чапуху такую ўбіўся?
З якой прычыны? — Бо упіўся...
І многа ёсьць прыкладаў,
Якія лепш пакіну з заду,
Бо не хачу судзіць нікога
І гутарыць аб гэтым многа.
Убачыўшы-ж такі малюнак
Ня мог ачнуцца я ад думак
І доўга думаў без парадку
Аб гэтакім дурным выпадку
Аб жыцьці моладзі сучаснай,
Якая сталася няшчаснай
З прычыны тэй, што адчуралась
Асьветы, ў цемры гадавалась,
А як да дому я дастаўся
То доўгі час заснуць стараўся,
Бо бачаныя мной узоры,
(Так сама й крыкі, разгаворы,)
Перад вачамі мятусіліс,
І як заснуў — усю ноч сьнілісь.

**Ю. Сергеевіч.**

## УПЯРОД!

Упярод, упярод,
Беларускі народ,
Здабыць волю сягоньня нам
[трэба.
Гымн народны запей
Весялей і сьмялей, —
Хай імчыцца пад сіняе неба!

Гэта-ж гудзе гудок, —
Ты стаўляй сьмела крок,
Не зважай ідучы ты на болі—
Адпачынеш тады
Бяз трудоў, без бяды,
Як адзышчыш прастор
[сваей волі.

**Габрусь Кучка.**

# Восень

Пасьля цёплага і вясёлага лета, надышла панурая, туманная, сьцюдзёная восень. Хмарак што-раз усё больш і больш пачало паяўляцца і дожджык часьцей пакрапляе зямельку. Сонейка апушчаецца што-раз ніжэй і слабей грэе. Дзянькі сусім кароткія сталі, а ночы марозныя і доўгія.

Не пачуеш цяпер ужо тэй песьні галасістай, што йшчэ нядаўна разьлівалася па ўсіх палёх. Усё пачало заміраць: як камаркі, конікі і авадні, так і чалавек. Часам можна спаткаць яшчэ гдзе-негдзе пастушкоў, якія каля агоньчыку пасеўшы грэюцца, а скацінка скорчыўшыся каля іх ходзіць.

Часамі можна пачуць жаласьліва-працяжыстую песьню жураўлёў ці бацяноў, якія цэлымі стадамі адлятаюць у вырай і жаласна плачуць па сваей роднай старонцы, да якой мо' ці прыдзецца болей вярнуцца; каждаму мілая свая старонка, той куток, гдзе радзіўся, жыў, змагаўся з рознаю злыбядою. Бадай кожны чалавек пачуўшы гэтую песьню жураўлёў ці бацяноў перад адлётам ў чужы край, ня вытрывае — заплача і сэрца сьцісьнецца ад болю....

Лісточкі бедныя сусім пажаўцелі і пачалі падаць на зямлю. Дрэўцы астаюцца асірацеўшымі на цэлую зіму без адзежкі.

Надышла сумная часіна жыцьця чалавечага: усюды пустата, мокра, сьцюдзена. Бедныя дзеткі маленькія, што калісь бегалі па вёсцы: гулялі, крычалі, пялі, цяпер як ваўчаняткі сядзяць пад акном і паглядаюць на сьвет Божы.

У гумнах чуецца стук цапоў, гук малатарняў, гдзе вясёлай грамадой малоцяць збожжа. У лазьнях таксама чуецца лапатаньне мяліцы, якая мне лён; адтуль заўсёды разлягаецца крык і шум маладых дзяўчат, або часам песьня такая сумная, што аж за сэрца бярэ.

Сумнае жыцьцё ў восені!.. І гдзе тое сонейка падзелася і гдзе тыя прыгожанькія пралесачкі, што заманівалі людцоў да сябе і тыя камаркі, казёлчыкі і другія істоткі? Усё прапала, як быццам у пропасьць пайшло... Дык не! Прыдзе час — ізноў усё аджыве, закрасуе...

**Янка Ваўштолскі.**

# Лісты.

## ЗАКЛАДАЙМО ГУРТКІ СВАІХ БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ.

**Парплішчына,** Дзісьненскага пав. Моладзь наша нясьведамая. Аб гэтым сьведча занік і ціша ў працы духовай. Не пачуеш тут нідзе аб беларускай арганізацыі, ня ўбачыш, каб хоць адзін хто выпісаў родную часопісь. Затое чужынцы моладзь нашу паўцягвалі ў свае арганізацыі.

Калі паглядзіш на гэта ўсё, сумна робіцца на душы, моладзь наша не прачувае зла і заместа таго, каб весьці барацьбу з цемнатой, паніжае сябе яшчэ больш.

Час ужо найвышэйшы пазнаць дабро і зло! Не дадуць нам дабра варожыя палянізуючыя нас арганізацыі! Нам трэба закладаць свае беларускія арганізацыі, бо толькі праз іх мы здолеем перамагчы сваё гора і даведаемся, як трэба жыць, за кім ісьці і чаго трымацца.

Ліда Атрахімовіч.

## НЯ ЎСЁ ДОБРАЕ, ШТО „ПРЫГОЖАЕ".

**Ланская гм.**, Нясьвіжскага пав. Моладзь нашае ваколіцы вельмі мала разьвітая. Сьведчыць аб гэтым наступнае. У нашай старонцы зьявіліся інструктары польскіх колаў „млодзежы", адзетыя па сваёй форме. Форма ж гэта многа каму падабалася, а каб паводле яе ўбірацца пачалі слухаць інструктарскіх абяцанак і запісвацца ў гэтыя колы. Запісаўшысь да вышэй успомненых колаў, моладзь гэта ніякае культурнае працы не праводзе, адно панакладаўшы нібыта прыгожыя шапачкі і кашулі, крывяць сваю мову беларускую на польскую.

Моладзь разьвітая бязумоўна так не паступала-б. І вам, браткі, паступаць так ня можна! Ня трэба гнацца за рагаценькай шапкай і ня трэба крывіць свае, як кажуць, простае беларускае мовы і чужой, бо гэта не паможа нам у нашай барацьбе жыцьцёвай. Гэтыя-ж усялякія формы „Стшэльцаў", „Ставажышэнцаў" і інш., зроблены, каб прыцягваць неразвітую моладзь і потым палянізаваць яе.

Беларуская моладзь павінна закладаць і належаць да сваіх арганізацыяў, як Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і працаваць супольна для падняцьця культуры свайго краю, ладзячы лекцыі, прадстаўленьні, чытальні.

Вясковы.

## НЯ ЎСЮДЫ КЕПСКА.

**м-ка Перабродзе і в. Цяцеркі,** Браслаўскага пав. У 1927 г. прыпадкова быў я ў м-ку Перабродзе і пабачыў, як там добра йшла праца на ніве беларускага адраджэньня. Моладзь тамашняя сарганізавала свой беларускі хор, ладзіла часта вечарынкі, прадстаўленьні і г. д. У гэтым годзе быў я там таксама і заўважыў, што нажаль няма там цяпер таго, што было ў 1927 г. Моладзь застрашаная, ды напатыкаючы нават часта на перашкоды са стараны бацькоў пазбаўлена якое-небудзь культурнае працы.

Падобна дзеялася і ў в. Цяцерках. Моладзь сарганізаваная ў Гуртку Беларускага Інстытуту Г. і К. працавала сколькі магла для справы беларускай. Праца гэта пасьля была замерла, але не на доўга. Моладзь нашая сільна духова ізноў

бярэцца за працу, думае ладзіць прадстаўленьні, вечарынкі і інш. Праўда, што вельмі цяжка гэта рабіць. Ня маем мы салі, а пры тым паліцыя знаходзіць вельмі шмат прычын, пасьля якіх сыплюцца пратаколы і на таго, хто гэта рабіў і ў чыёй гэта хаце рабілася. Гэта аднак не паўстрымае ахвоты нашае моладзі працаваць на карысьць Бацькаўшчыны.

Гэнрык Пяцюкевіч.

## ДОБРЫ ПРЫКЛАД.

**в. Расла**, Жодзішнае гм., Вялейскага пав. У нас, як пэўне-ж і ўсюды, былі заварушыўшыся польскія „strzelcy“. Залажылі яны сваю баёўку і думалі, што ўдасца ім у нас пажывіцца. Але ня тое выйшла, бо ня так даўно іх колка разваліласся. Прычынай гэтага развалу было тое, што ў нашай вёсцы моладзь — гэта сьведамая беларуская маса. Ня гледзячы на тое, што яна належала да гэтае арганізацыі, моладзь сьмела прызнавалася беларусамі і працавала на карысьць беларускае справы.

Бывала хлопцы сойдуцца ў сьвятліцу і замест польскага гымну, калі грымнуць „Ад веку мы спалі“, дык аж рэха па вуліцы нясецца. На гуляньні ніколі ня ўжывалі яны мовы польскае. Не спадабалася гэта начальству „стральцоў“ і яно пачало рабіць даходы, хто ў гэтым вінават. Шукала, шукала, паліцыю прысылала і такі знашлі „віноўнага“, гэта І. Ш. Тады прыехаў капітан з Вялейкі і сказаў, што выкідае з радоў „strzelców“ І. Ш. На гэта ўсе хлопцы крыкнулі, што і яны выходзяць з гэтага кола і кола гэна развалілася.

Вось табе беларуская моладзь прыклад з Раслаўскае моладзі.

Пасьля гэтага ўся наша моладзь пастанавіла запісацца ў сябры Гуртка Бел. Інстытуту і такім чынам рук не апускаць, а яшчэ больш працаваць для дабра нашага беларускага народу.

Б — к.

---

# 10-я ўгодкі заснаваньня Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні.

У гэтым годзе прыпадаюць 10-я ўгодкі заснаваньня Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні. 23-га лістапада Бел. Студ. Саюз ладзіў сьвяткаваньне гэтага Юбілею, у часе якога была наладжана ўрачыстая акадэмія ў унівэрсытэце ў салі Сьнядэцкіх і канцэрт-баль.

Сьвяткаваньне гэта выклікала вялікае зацікаўленьне ня толькі сярод беларускага студэнства і моладзі, але і старэйшага грамадзянства і дзеля гэтага на акадэміі сабралася многа людзей.

Акадэмію распачаў старшыня Б. С. С. студ. К. Глін-

скі, па прамове якога хор адсьпяваў студэнскі гімн „Gaudeamus igitur". Пасьля выступіў рэктар унівэрсытэту праф. др. Янушкевіч і вітаў Б. С. С., жадаючы пасьпеху ў ягонай працы. Пасьля прамовы рэктара былі прачытаны два рэфэраты. Студ. Ст. Станкевіч прачытаў рэфэрат п. н. „Гісторыя беларускага студэнскага руху", у якім нарысаваў палажэньне і працу беларускага студэнства за часоў царызму і сягоньня, а студ. А. Бартуль прачытаў рэфэрат п. н. „Беларускі Студэнскі Саюз за 10 год істнаваньня", падкрэсьліваючы між іншым, як важную ідэолёгічную праяву ў беларускім студэнстве, яго супрацоўніцтва з студэнтамі літвінамі і ўкраінцамі.

Далей-жа віталі Б. С. С. кс. Гадлеўскі ад Бел. Інстытуту Г. і К., гр. А. Трэпка ад „Цэнтрасаюзу", гр. А. Луцкевіч ад Бел. Навуковага Т-ва, інж. В. Лаўскі ад імя Аб'яднаньня Беларускіх Студ. Арганізацыяў у Празе Чэскай (Арганізацыя гэта гуртуе ўсе бел. студ. арганізацыі, а на чале яе стаіць інж. В. Лаўскі); Васіль Багдан Крахмалюк — ад Кружка Студэнтаў Украінцаў у Вільні; а також вітаў старшыня Літоўскага Студ. Саюзу. Ад палякаў студэнтаў віталі: студэнт Гэнрык Дэмбінскі — ад імя студэнтаў палякаў з зямель бышага Вял. Кн. Літоўскага і старшыня польскае студ. арг. „Legjon Młodych". Ад імя беларускае моладзі згуртаванае каля час. „Шлях Моладзі" вітаў гр. Я. Найдзюк. Пасьля гэтага сэкрэтар Б.С.С. Ст. Станкевіч прачытаў надасланыя ў вялікім ліку (больш паўсотні) прывітаньні ад розных арганізацыяў беларускіх, украінскіх, нямецкага студэнскага саюзу і ад паасобных адзінак.

Па гэтым пасьля адсьпяваньня беларускага народнага гімну „Не пагаснуць зоркі ў небе" акадэмія закончылася.

Трэба так-жа адзначыць, што на час акадэміі ў унівэрсытэце была наладжа выстаўка беларускае студэнскае прэсы.

Акадэмія была вельмі добра сарганізаваная і на прысутных зрабіла дужа добрае ўражаньне.

У часе гэтае-ж акадэміі беларускае студэнства выразна выявіла сваю незалежніцкую ідэолёгію і свае шчырыя імкненьні да будаваньня лепшае будучыні нашае Бацькаўшчыны Беларусі.

Другой часьцю сьвяткаваньня быў канцэрт-баль, які адбыўся ў гэтым-жа дню ў салі „Апольлё". У часе канцэрту выступаў хор пад кіраўніцтвам гр. Валынчыка, які дужа прыгожа выканаў некалькі беларускіх песень. Дужа цікавы быў танец-балет „Вызваленьне" ўложаны студ. Сарокай.

Што да канцэрту-балю, то трэба заўважыць, што назоў гэты можа ня зусім удалы. Назоў „баль" ня надта прыемны для вуха беларускага беднага грамадзянства. Лепш мо' было-б назваць гэты „баль" напр. вечарынай.

Агулам аднак сьвяткаваньне адбылося дужа добра.

(З.)

# Хроніка

## З беларускага жыцьця.

Беларусы і выбары ў польскі Сойм і Сэнат. У сёлетніх выбарах у польскі Сойм і Сэнат Беларусы йшлі разьбіўшыся на многа партыяў, і так было іх аж некулькі. Была партыя самая левая (камуністычная), якой спіскі былі ўніважненыя; Блёк Украінска-Беларускі (незалежнікі), якога сьпіскі таксама часткова былі ўняважнены; „Цэнтрсаюз" (беларускія палёнофілы). Рэзультаты выбараў ёсьць дужа сумныя, бо ў Сойм ад Беларусаў прайшоў толькі адзін пасол Фабіян Ярэміч па дзяржаўным сьпіску Украінска-Беларускага Блёку, а ў Сэнат не прайшоў ані адзін Беларус. Трэба зазначыць, што ў 1922 годзе Беларусы правялі ў Сойм 12 сваіх паслоў, а ў 1928 годзе 8 паслоў. Вынік гэтых выбараў зьяўляецца вельмі добрай навучкай для павадыроў беларускага руху, а таксама сьведчыць аб цемнаце нашай вёскі і аб тым, як яшчэ многа трэба працаваць для ўсьведамленьня Беларускага Народу.

Сьвяткаваньне юбілею В. К. Вітаўта. У дзень 500-леццця сьмерці Вялікага Князя Вітаўта 27.X.1930 г. літоўска-беларускі „Юбілейны Камітэт, у склад якога ўваходзілі ад беларусаў кс. Ад. Станкевіч, б. сэнатар В. Багдановіч, пасол Ф. Ярэміч і др. Б. Грабінскі, а ад літоўцаў кс. праф. Краўяліс, кс. пралат Вісконт, др. Альсэйка, гр. Сташыс і дыр. Шыксніс, ладзіў у Вільні ўрачыстае сьвяткаваньне. Сьвяткаваньне распачалося набажэнствам у касьцеле сьв. Мікалая, у часе якога аткрыта памятнік Вялікаму Вітаўту. Пасьля аткрыцьця былі сказаны два казаньні: палітоўску казаў кс. Чыбірас, а пабеларуску кс. Гадлеўскі. А гадзіне-ж 7-ай вечарам адбылася ўрачыстая акадэмія ў салі „Apollo". На акадэміі былі прачытаны тры рэфэраты: два палітоўску і адзін пабеларуску. Палітоўску чыталі кс. праф. Краўяліс і др. Альсэйка, а пабеларуску кс. Адам Станкевіч. Пасьля рэфэратаў выступаў літоўскі хор і салісткі.

Учасе акадэміі саля была перапоўнена публікай.

Выезд б. павадыроў „Грамады." Польскія газэты падаюць, што б. павадыры „Грамады" Б. Тарашкевіч,

Сымон Рак-Міхайлоўскі, Мятла і Бурсэвіч, нядаўна выехалі ў Гданск, а адтуль далей заграніцу, быццам у Бэрлін.

10-я ўгодкі Слуцкага Паўстаньня. Сёлета прыпадаюць 10 я ўгодкі слаўнага беларускага Слуцкага Паўстаньня. Дзеля належнага адсьвяткаваньня Бел. Студ. Саюз 8-га сьнежня ладзіць акадэмію.

Судзяць і канфіскуюць. 11-га лістапада с. г. у Віл. Апэляц. Судзе разглядалася справа жодзішных парафіян, Вялейскага пав., Ст. Грыба і М. Ярмака, абвінавачаных у тым, што сьпяваючы беларускія касьцельныя песьні перашкаджалі адпраўляць набажэнства. Апэляцыйны Суд зьменшыў кару Акружнога Суду і даў Ст. Грыбу 3 м. арышту, а М. Ярмаку 2 м.

— 13-га лістапада с. г. Апэляцыйны Суд у Наваградку разглядаў справу б. сэнатара Рагулю і ў выніку зацьвердзіў прысуд Акруж. Суду, які засудзіў яго на 2 г. цяжкой турмы.

— 14-га лістапада с. г. па загаду Гарадзкога Старасты на м Вільню паліцыя сканфіскавала № 4 „Беларускага Клічу“ — орган Беларускага Выбарнага Камітэту № 11.

— 22-га лістапада с. г. у Віл. Акружн. Судзе разглядалася справа рэд. „Ш. М.“ Мар'яна Пецюкевіча, абвінавачанага па 129 арт. К. К., за памяшчэньне ў № 4 „Ш. М.“ вершу „Паўстань Беларусь“, які ў сваім часе быў сканфіскаваны. Справу гэту Суд адлажыў.

## З Польшчы.

Вынік выбараў у Сойм і Сэнат. 16 лістапада с. г. адбыліся выбары ў Сойм, у выніку якіх сьпісак № 1 — Безпартыйны Блёк Супрацоўніцтва з Урадам атрымаў 248 мандатаў, № 4 „Строніцтво Народовэ“ (эндэцыя) 64 м., № 7 „Цэнтралеў“ (левыя апазыцыйныя польскія партыі) 79 м., № 11 „Украінска-Беларускі Выбарны Блёк 21 м. (з чаго 20 паслоў украінскіх і 1 пасол беларускі), № 12 Немцы 5 м., №№ 14, 17 і 18 Жыды 7 м., № 19 Каталіцкі Блёк 14 м. і №№ 22 і 23 камуністы 6 мандатаў.

23-га лістапада адбыліся выбары ў Сэнат, у выніку якіх сьпісак № 1 Безпартыйны Блёк атрымаў 76 м,; № 4 — 12 м.; № 7 — 14 м.; № 11 — 4 м.; № 12 — 3 м. і №10 — 2 м. З гэтага бачым, што найбольш мандатаў атрымаў урадавы сьпісак № 1, здабываючы гэтым большасьць, а найбольш страціў сьпісак № 7 і нацыянальныя меншасьці.

## З заграніцы.

Што робіцца ў С.С.Р.Р. Нядаўна ў газэтах паявіліся весткі, што быццам у С.С.Р.Р. паўстала рэвалюцыя і што Сталіна цяперашняга дыктатара С.С.Р.Р. забілі, а яго месца заняў Варашылаў, ваенны камісар. Весткі гэтыя аказаліся безпадстаўныя, бо як падаюць тэлеграмы з Масквы ў С.С.Р.Р. пануе надалей Сталін. Аднак падаюць гэтыя-ж самыя тэлеграмы, што ў савецкай арміі пануе незадаволеньне з сучаснага палажэньня.

# Наша пошта.

Юліяну Сергіевічу. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем, „Ш. М." будзем высылаць; па „Віншаваньне" пойдзем, толькі ня ведама, ці аддадуць нам.

С. Машары. Пісьмы Вашы абодва атрымалі і з перш прысланага матэр'ялу часткова скарысталі. Залеглыя нумары „Шляху Моладзі" высылаем паўторна, мы кожны нумар высылаем акуратна; дамагайцеся на пошце, з прысланага скарыстаем у наступных нумарох.

Алекс. Мілевічу. Матэр'ялы і ноты атрымалі, дзякуем, калісь выкарыстаем. „Шлях Моладзі" на прысланыя адрасы высылаем.

Г. Потрубейку. Усе залеглыя нумары „Ш. М." высылаем, а так-жа і далейшыя Вам і напрысланыя адрасы будзем высылаць. Чакаем падпіскі.

Янку Тутэйшаму. Пісьмо атрымалі, дзякуем, увагі Вашы вельмі слушныя, пастараемся іх выкарыстаць, друкуючы там, дзе можна будзе.

Анат. Сахарчуку. № 7 і 8—9 „Ш. М." высылаем і чакаем падпіскі.

Сірацe. Карэспандэнцыю атрымалі, надрукуем у наступным нумары. Чэсьць і слава маладым барацьбітом.

Пал. Алекса. Два пісьмы, а разам з імі і матэр'ялы атрымалі, дзякуем, добрыя, будзем друкаваць у наступных нумарох. Пробныя нумары высылаем.

М. Рачэнюку. „Ш. М." і календарык вышлем.

Я Салаўю. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем, будзем друкаваць. „Ш. М" высылаем і будзем высылаць акуратна. № 2 і 7 высылаем паўторна.

Т. Асіповічу. Пісьмо атрымалі, верш папраніўшы надрукуем. Просьбу споўнілі.

Г. Рудко. Пробныя нумары выслалі, чакаем падпіскі.

В. Дубов. Пробныя нумары высылаем і чакае падпіскі.

Вінцукевічу М. Вершы атрымалі, дзякуем. Добрыя, будзем друкаваць. „Шлях Моладзі" выслалі і далей будзем высылаць.

І. Пупіну. Матэр'ялы атрымалі, па магчымасьці выкарыстаем. „Ш. М." высылаем. Песьні народныя просім запісваць толькі чыста беларускія расейскія і польскія нам не патрэбныя.

Маладому. Пасьля атрыманьня Вашае карэспандэнцыі праз нейкі, час атрымалі мы пісьмо з Вашае стараны падпісанае быццам праз Вас, у якім было напісана, што Вы ўжо атрымалі перамогу ў самаўрадавых выбарах. Карэспандэнцыю пастараемся надрукаваць, яна многа чаго гаворыць.

Я. Сухадольскаму з пад Тургель. Карэспандэнцыю зьмесьцім у далейшых нумарох.

Мікол.-Круцёлцы Матэр'ялы, атрымалі памагчымасьці надрукуем.

Макаўлянцу. Матэр'ялы атрымалі, будзем карыстаць. Вершы вельмі слабыя. „Ш. М." № 2 і 5 выслалі. № 4 сканфіскаваны.

Фані. Карэспандэнцыю, адрасы, друкі атрымалі, просьбу споўнілі, За ўсё дужа дзякуем.

Падпісную плату на „Шлях Моладзі" атрымалі ад: Шайка Ул., Пасюты, Паўленя, Кс. К. Кулака па 4 зл.; Грыневіча 3 зл.; Камлача М. 2 зл. 50 гр.; Кс. Ул. Савіцкага, Дзешкі Ул., Сенкевіча, Гінько Яна. Чаплінскага, Качанюка М., Навіцкага Ю. па 2 зл.; Пылінскага 1 зл. і 20 гр.; Сухадольскага 1 зл. - усім шчыра дзякуем, „Ш. Моладзі" высылаем.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*

*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

## П А Д З Я К А.

Гэтым Рэдакцыйная Калегія „Шляху Моладзі“ шчыра дзякуе Паважанаму Кс. Ад. Станкевічу за ахвяраваньне паперы на Календарык „Ш. М.“, Кс. Др. Ст. Глякоўскаму за ахвяраваньне 20 зл., і Грамадзяніну Леаніду Шыдлоўскаму з Баранавіч за ахвяраваньне 5 зл. на выдавецтва „Шляху Моладзі“, а так-жа Паважаным беларускім мастаком: Я. Драздовічу і Ул. Паўлікоўскаму: першаму за бязплатнае выкананьне на ліналеум арнамантаў (заставачак) да „Шляху Моладзі“, другому за такое-ж выкананьне вокладкі да Календарыка „Шляху Моладзі“ на 1931 г. і арнамантаў да „Шляху Моладзі“.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ.

# Ад Рэдакцыйнае Калегіі.

Рэдакцыйная Калегія падае да ведама, што:

1. Падпішчыкам, якія не аплацілі падпіскі за 1930 г., ад гэтага нумару высылка часопісі будзе ўстрымана

2. Каб даць магчымасьць падпішчыкам аплачваць акуратна падпіску і каб бяднейшая моладзь магла выпісваць „Шлях Моладзі“, Рэдакцыйная Калегія зьменшыла падпіску. Такім чынам падпіска на „Шл. М.“ на 1931 г., каштуе ўсяго **2 зл.**, на паўгода **1 зл.**, і на 3 месяцы **50 гр.**

3. Да Каляд усім акуратным падпішчыкам і супрацоўнікам будуць высланы два календарыкі (календарык-нотас і сьценны), як бязплатны дадатак да „Ш. М.“.

4. „Шлях Моладзі“ на далей будзе выходзіць акуратна, што-месяц.

Прытым Рэдакцыйная Калегія зьвяртаецца з просьбай:

1. Прысылаць падпіску на „Шлях Моладзі“ на 1931 г.

2. Дапамагчы нам распаўсюджваць „Шл. М.“ і здабываць як найбольш падпішчыкаў.

3. Зьбіраць і прысылаць ахвяры на выдавецкі фонд „Шляху Моладзі“.

4. Прысылаць творы да друку і весткі з жыцьця беларускае моладзі. (Пры тым просім пісаць матэр'ялы да друку: вершы, апавяданьня, стацьці, карэспандэнцыі і інш. на аддзельных кавалках паперы, пажадана на палове канцэлярыйнага, ці сшыткавага аркуша, разрэзанага па палове ўдоўж і толькі на аднэй старонцы).

5. У выпадку не атрыманьня часопісі просім складаць на сваей пошце скаргу да Дырэкцыі Пошт і Тэлеграфаў у Вільні, павядамляючы аб гэтым Рэдакцыю.

Верым, што Паважаныя Грамадзяне прыхільна аднясуцца да нашае просьбы і споўняць свой грамадзкі абавязак.

*Рэдакцыйная Калегія*
*«Шляху Моладзі».*

*Грамадзяне! Выпісвайце, чытайце і пашырайце «Шлях Моладзі»!*